# Самапомач
# Samapomač

**Беларуская коопэратыўна-гаспадарчая часопісь**

Год IV. | Вільня, Красавік 1935 г. | № 4.

*Хай злыдні над намі,*
*скрыпочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй,*
*засявай!..*

ЯНКА КУПАЛА.



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомачу.*

*Джордж* РЭССЭЛЬ (*Ірляндзец*).



## ЗЬМЕСТ № 4 (33).



## Ceny ŭ Vilni

*29.IV.35. Ceny za 100 kilohram.*

**Pry kupli—prodažy.**

| | |
|---|---|
| Žyta II sortu | 13.10—13,50 |
| Pšanica II sortu | 18.00—18 50 |
| Muka, žytniaja da 55% | 23 00—23 50 |
| Muka žytniaja da 65% | 19.00—20 50 |

**Z papiarednich dzion.**

| | |
|---|---|
| Žyta I sortu | 14.00—14.50 |
| Pšanica I sortu | 18.50—19 00 |
| Jačmień | 14,00—16 00 |
| Avios | 13.00—14,25 |
| Hrečka | 16 00—18.00 |
| Muka pšaničnaja | 13.50—31 00 |
| Muka sitkovaja | 15 00—15 50 |
| Muka razovaja | 15.00—15.50 |
| Muka žyt. da 82% (typ vajskovy) | 17.00—17 50 |
| Kaniušyna čyrvonaja, ačyščanaja biez kanianki | 100.00—120.00 |
| Łubin sini | 7.50—8 00 |
| Bulba stałovaja | 3.00—3.50 |

**Małočnaje za 1 kilo (23.IV.35.).**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, za kilo ŭ hurcie | 2,50 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 2.80 |
| Masła stałovaje za kilo ŭ hurcie | 2.30 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 2.60 |

## Наша пошта.

Палейка Я: Пробны нумар „Самапомачы" пасылаем. Пазнаёмцеся і другіх пазнаёмце. Чакаем падпіскі.

Мірук Улас. Часапіс Вам акуратна высылаецца.

Янцэвіч М: Атрымалі, часапіс акуратна высылаем.

Коопэратыве ў Вераскаве. Атрымамалі, усё прошанае выслалі.

М. Норык—Чакаем каталёгу хамутоў для каровы і тады Вам аб усім напішам.

С. Борык і В. М—а я: тое самае, як вышэй. Ужываньне каровы як запрэжнай сілы ў Вашых дробных але скомасаваных гаспадарках вельмі было б на месцы. Не зважайце на намовы суседзяў, бо праз іх гавора толькі пустая фанабэрыя.

Кіоск В. Міхальскі ў Н.: Па 2 экзэмпляры „Самапомачы" будзем Вам акуратна пасылаць.

А. Сінкевіч: Атрымалі. Будзем пасылаць на паказаны адрэс. Спадзяёмся, што незадоўга дапоўніце рэшту падпіскі. Прывітаньне!

Др. Бр. Туронак: Атрымалі. Дзякуем, але спадзяёмся і больш.

| | |
|---|---|
| Masła solenaje za kilo ŭ hurcie | 1.80 |
| „ „ „ „ u detalu | 2.00 |
| Syr navahradzki, za kilo ŭ hurcie | 2 30 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 2.80 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie | 1.70 |
| „ „ „ „ u detalu | 2.00 |
| Jajki, kapa | 3.00—3.90 |
| „ štuka | 6—8 hrašoŭ. |

Samapomač

BIEŁARUSKI KOOPERATYŬNA - HASPADARSKI ČASAPIS.

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 4—10.

Самапомач

| Hod IV. | Vilnia, Krasakavik 1935 h. | Nr. 4 (34). |
|---|---|---|

## KOOPERATYŬNYJA NAVINY.

**Dzień Kooperacyi.** Jak štohod, tak i sioleta, u pieršuju niadzielu m-ca červienia ŭ Polščy budzie abchodzicca Dzień Kooperacyi. Sioleta hety Dzień prypadaje na 2-hoje červienia.

**Kooperacyja ŭ nas i ŭ susiedziaŭ.** Pavodle statystyčnyah abličeńniaŭ na 1000 kv. klm. prypadaje hetki lik kooperatyvaŭ: Na Paleśsi — 6, u Vilenščynie — 11, u Navahradčynie 12, u Biełastoččynie — 13. — Na abšary-ž vajavodztvaŭ: Varšaŭskaha — 25, Paznanskaha — 33, Krakaŭskaha — 45; a ŭ Uschodniaj Haliččynie (koop. ukrainskija i inš.), u vajav. Stanisłavaŭskim — 64, Lvoŭskim — 67 i Tarnopalskim — až 85.

**Złučylisia ale nia zusim.** Ad Novaha 1935 h., jak viedama, pad naciskam Uradu jdzie „złučańnie" polskaj ziemlarobskaj kooperacyi ŭ adzin Sajuz. Pavinien byŭ u novy Sajuz pajšci i silny paznanski „Związek Spółdzielni Zarobkowych i Gospodarczych" i — zdavałasia-b — pierastać isnavać asobna, bo pravy revizyjnyja zakon hetamu „Związku" adabraŭ. Stałasia adnak inakš, bo voś na źjeździe „Zviazku" 4.III. siol. delehaty sarhanizavanych kooperatyvaŭ pastanavili, kab „Związek" nie kasavać, ale, źmianiŭšy tolki krychu nazoŭ, utrymlivać jaho dalej jak arhanizacyju **ideova-prapahandovuju.** — Jak vidać, praktyčnyja paznanskija haspadary nia vierać, kab dla ich i za ich moh dobra spraŭlacca kazionny Sajuz Ziemlarobskich Kooperatyvaŭ u Varšavie i tamu i nadalej pastanavili trymacca svajho sobskaha „Związku", arhanizavanaha ścisła na zasadach samapomačy.

Jak šmat kaža hety pastupak razdroblenym kooperatyvam b i e l a r u s k i m!

**Śpiašajucca likvidavacca.** Inakš pastupaje Varšaŭski „Związek Rewizyjny Spółdzielni Rolniczych", jaki taksama ŭvachodzić u novy kazionny Sajuz zieml. kooperatyvaŭ: na pasiedžańni Rady varšaŭskaha „Związku" dnia 15 sakavika siol. pastanoŭlena: zvolnić kooperatyvy ad naležańnia da „Związku" i prad d. 1 lipnia siol. sklikać Ahulny Schod, jakomu Rada padaść prapanovu ab **likvidacyi.** Słovam — dalej žyć nia chočuć i ŭsimi siłami addajucca ŭ abojmy kazionnaha Sajuju. — Moža tam budzie žycca i spakajniej, ale ci-ž heta budzie kooperacyja?

**Viaśnianyja konferencyi** Sajuzu spažyv. kooperatyvaŭ „Społem!" naznačany: u **Lidzie** — na 28 krasavika, u **Baranavičach** — 5 traŭnia i ŭ **Vilni** — 12 traŭnia.

**Sarhanizavali viosku — iduć u miesta.** U vyšej padadzienaj statystycy kooperacyi ŭ Polščy vidać, jak vysoki lik kooperatyvaŭ na tych abšarach, dzie pracujuć kooperatyvy ukrainskija, u vajavodztvach: Lvoŭskim, Stanisłavaŭskim i Tarnopalskim. (Na Vałyń, jak viedama, novy kooperatyŭny zakon Ukraincaŭ nia puściŭ — *prypiska drukara*). Lik kooperatyvaŭ na hetym abšary navat vypieradziŭ takuju Paznanščynu i Krakaŭ, nie kažučy ŭžo ab Varšavie.

Usio heta pakazvaje, što Ukraincy svaju viosku ŭžo ŭ vializnaj miery skooperavali. Vośža ciapier uvahu svaju źviarnuli jany na miesta. Dnia 3 krasavika sioleta ŭ Lvovie adbyłasia narada ukrainskich kooperatyŭnych dziejačoŭ u spravie ŭzmacnieńnia isnujučych i arhanizavańnia novych ukrainskich kooperatyvaŭ u ukrainskich haradoch.

Bratom našym žadajem udačy.

**„Masłasajuz" pracuje.** Dnia 28 sakavika adbyŭsia ŭ Lvovie hadavy spravazdaŭčy schod centrali ukrainskaj małačarskaj kooperacyi „Masłasajuzu". Pamima ŭzrastajučaha kryzysu, „Masłasajuz" zamknuŭ svaje rachunki za 1934 hod nadvyškaj 3.477 zł. 29 hr. — Nadvyška za 1933 h. była 2.958 zł. 03 hr. Vinšujem! —

Ukrainski „Masłasajuz" ad 1932 h. akramia addziełu małačarskaha viadzie jšče ŭ Lvovie addzieł biełaha miasa (kurynaha i naahuł ptušynaha).

**Niamieckaja kooperacyja ŭ Polščy.** Paśla źmienaŭ nakazanych novym polskim kooperatyŭnym zakonam, usia niamieckaja kooperacyja ŭ Polščy złučajecca ŭ adzin *„Sajuz Niamieckich Kooperatyvaŭ u Polščy — Paznań"*. Sajuz hety abymaje svajej dziejnaściu ahułam 620 niamieckich kooperatyvaŭ u Paznanščynie, Pamorry i ŭ Łodzi; z hetaha: 354 kooperatyvy kredytovyja, 133 — spažyvieckija dy ahulnaha zakupu i zbytu i 54 małačarni.

*Kali chočacie dalej atrymlivać „Samapomač" — apłaciecie padpisku, bo jnakš vysyłka časapisu budzie ŭstrymana i Vam.*

# Сельская гаспадарка.

## Што пасееш—тое і пажнеш.

Хто-ж з нашых гаспадароў ня чуў гэтай прыказкі? А аднак, як-жа многа людзей у нас паступаюць так, быццам гэтай прыказкі ніколі ў жыцьці ня чулі.

Мы з свайго боку пісалі аб гэтым прад сяўбовым часам у мінулыя гады. Дзеля таго аднак, што ад прачытаньня да дзела яшчэ ня так скора і дзеля таго, што круг нашых чытачоў ад мінулых гадоў значна пабольшыўся — пішам аб гэтых справах і перад сёлетняй сяўбой. Агранічваемся пры гэтым толькі да апісаньня падбору і прыгатаваньня сяўбовага насеньня, памінаючы зусім справу абрабляньня глебы і гнаеньня.

Якім мае быць сяўбовае насеньне? — Яно мусіць быць: сапраўдным (тым, за катораe яго ўважаем), чыстым (бяз ніякіх дамешкаў), усходлівым (з сотні зярнят загадзя засееных у вогкі пясок мусіць прарасьці прынамсі 95), цэлым (непаламаным і наагул непакалечаным) і здаровым.

Пры ўсіх гэтых свомасьцях сяўбовага зярняці ня можна забываццa, што найлепшым зярнём для пасеву ёсьць тое, якое вырасла ня ў лепшай, як наша, глебе і не ў цяплейшым, як наш, клімаце. Таму з усім націскам паўтараем — будзьма асьцярожнымі прад куплёй захвалянай „заводнай" сяўбы, выгадаванай нейдзе далёка; паўтараем: найпэўнейшае сяўбовае зерне — выгадавана ў добрага гаспадаруючага суседа, або на краёвай дасьледчай станцыі, у нас — у Беняконях. Купляючы-ж сяўбовае зерне на рынку ці наагул ад незнаёмых людзей, трэба вымагаць пісьменнае забавязаньне (парукі) аб тым, якое гэта зерне.

Ня ўсе пералічаныя наперадзе свомасьці зярняці можна пазнаць з першага на іх ужо пагляду. Найцяжэй-жа пазнаць, ці зярнё здаровае. Дзеля гэтага ў добрых гаспадарках з кожным — навет заводным — сяўбовым зярнём паступаюць так, як быццам яно было-б хворым, ці дакладней кажучы— мела-б на сабе і ў сабе заразкі якойколечы хваробы. Ад часу, калі людзі знайшлі спосаб забіваньня (**затручваньня**) гэтых заразкаў, хворасьць зярняці перастала быць небясьпечнай. Сягоньня людзі ўжываюць двух спосабаў затручваньня*): старога — **мокрага** і новага — **сухога**.

Пры затручваньні мокрым атрута распускаецца ў вадзе, у каторай пасьля намочваецца праз кароткі час сяўбовае насеньне. Пры сухім-жа затручваньні парашок атруты перамешваецца з насеньнем за суха.

*) Гэткае затручваньне сяўбовага зярняці называюць так-жа **байцаваньнем**.

M. Karalenka.

## Majovy chrušč
### (Melolontha melolontha L.).

Majovy chrušč *(Melolontha melolontha L.)* adziny z najbolš znanych žukoŭ *(Coleoptera)*, robić šmat škody našamu ziemlarobstvu, sadoŭnictvu i laśnictvu. Dla nieabaznanaha čałavieka škody paroblenyja hetym chruščom nie zdajucca być vialikimi, ale abličeńni specyjalistaŭ kažuć, što kožnaha hodu haspadarka ahulnaj raślinnaj pradukcyi panosić z pryčyny majovaha chrušča straty, katoryja treba ličyć na miljony złotaŭ. Trudna pavieryć, kab taki mały tvor moh być až tak škodnym, ale treba tolki paznać jaho žyćcio, a ŭžo tady lohka budzie nabrać paniaćcia ab im, jak vialikim vorahu ziemlarobaŭ.

Voś i jošć majej metaj pradstavić tutaka sposab žyćcia majovaha chrušča, vykazać škodnaść i padać sposaby baraćby z im.

**Ahulnyja ŭvahi.** Majovy chrušč (*Melolontha melolontha L.*) naležyć da padsiamji chruščavatych (*Melolonthinae* Reitt., siamja *Scarabaeidae, Coleoptera*). Siudy naležučyja žuki majuć silnuju budovu cieła, rožki niaznačna kalenkavata załamanyja. Pieršy člon rožkaŭ niavyrazna pradoŭžany, ale zaŭsiody zhrubieły, a astatnija człony rasšyrajucca listkavata i tvorać składany vachlaryk. Hornyja škivicy zdatnyja da žućcia.

Larvy hetaj padsiamji žyvuć u ziamli, pierahnoi i h. p. Pajadajuć što papała, mała ruchlivyja, miakkija, biełaha koleru.

Vyrasšyja avadni (*imagines*), žyva časta achvarbavanyja, choć pieravažajuć ciomnyja, časta metaličnа—bliščučyja kolery, žyrujuć zvyčajna na raślinach. Niekatoryja hatunki latajuć tolki nočču abo viečaram. Naležyć siudy, apra-ča **majovaha chrušča** (*Melolontha melolontha L.*), **kaštanovy chrušč** (*Melolontha hippocastani L.*), tak-ža vialiki škodnik, zusim padobny vyhladam i biolohijaj (sposabam žyćcia) da majovaha. Dalej, hatunki: *Amphimallus solsticialis L.* — škodnik zbožžaŭ, *Polyphilla fullo L.* — škodny hałoŭnym čynam na Ukrainie; paśla — *Anomala aenea* Deg., *Phyllopertha horticola L.* i inšyja, mienš ci bolš škodnyja.

**Imago** (śpiełaja chvorma) hetaha chrušča byvaje značnaj vieličyni (daścihaje da 3 cm. daŭžyni), maje koler čorny, hałavu i nožki čyrvona-buryja, hrudny ščyt zvyčajna čorny, radziej čyrvony, z redkimi i karotkimi vałaskami.

Да мокрага затручваньня (байцаваньня) ўжываюць як атруты: сіняга каменя, формаліны, сублімату і сумысных фабрычных мяшанак, як гермізан (germisan), успулюн і інш.

Сіні камень (медзяны купарас) прыгатаўляецца аднапрацэнтны: на сто літраў вады даецца адзін кілёграм купарасу. Лепш распусьціць купарас спачатку ў меншай колькасьці гарачай вады і пасьля даліць гэта да рэшты вады ў дзераўляным цэбры ці якой дзежцы, так-жа дзераўлянай. Гэтых 100 літраў разьведзенага купарасу можа хапіць на байцаваньне 300—400 кілёграмаў сяўбовага насеньня. — Само байцаваньне выглядае так: бяром густы кошык, для пэўнасьці высьцелены чыстым палатном, насыпаем у яго насеньне і, затопліваючы ў растворы купарасу, старанна вымешваем праз 5 мінут. Усплываючае наверх сьмяцьцё зьбіраем і спаліваем (атрута!). Па пяцёх мінутах кош з насеньнем выбіраем, старанна прапаласківаем у дзяжы з чыстай вадой і рассьцілаем ценькім пластом на **чыстым** таку (лепш на падлозе) ў гумне ці ў іншым правеўным месцы, часта яго пры гэтым пераварачваючы (шуфлюючы). Праз дзень-два насеньне ўжо можа быць гатовым да севу.

Каб прабайцаванае насеньне ўсьцерегчы ад паўторнага зара.кэньня, трэба месца сушкі спачатку скрапіць тым-жа растворам купарасу, змачыць у ім і пасьля высушыць мяшкі, у каторыя сяўбавое насеньне будзе набірацца да севу; таксама ўсякую снасьць, з якою байцаванае насеньне будзе стыкацца перш чым дастанецца ў глебу (лапаты, лубкі, сеялкі), трэба прад кожным ужыцьцём змачыць растворам таго-ж самага купарасу.

Формаліна — раствор 0.1 прац. (на 100 літраў вады $^1/_4$ літра прадажнай 40 прац. формаліны). Байцаваньне трывае 20 мінут. Рэшта як пры м. купарасе.

Сублімат—0.1 прац. раствор (1 грам на 1 літр вады). Насеньне ў ім не затопліваецца, а толькі спырсківаецца. На 100 кілё насеньня выходзіць 15 кілё раствору. Сушыць досыць паўгадзіны.

Гермізан (Germisan) ужываецца ў 0.25 прац. (чверць працэнтным) растворы. На 100 літраў вады даецца 250 грамаў ($^1/_4$ кілё) парашку. Байцуецца 30 мінут. Аднэй порцыі раствору хапае на 300 кілё сяўбы.

Успулюн ўжываецца таксама ў 0.25 прац. растворы. Рэшта як у гермізану, толькі успулюн мацнейшы і аднэй порцыі (250гр.) хапае на 400—500 кілё сяўбы.

Сухое байцаваньне палягае на тым, што сяўбовае насеньне перамешываецца з парашком байцу на суха. Ужываюцца да гэтага парашкі **сухога** успулюну, агавіту і апошнім часам гэтак званага зярняку. Перамешываньне адбываецца ў шчыльна замкнёнай кадушцы, якую найлепш прыгатаваць так, каб круцілася навокал укоснай васі. На 100 кілё сяўбовага насеньня выходзіць 150 грамаў парашку успулюну (на суха) ці агавіту. Байцаваньне на суха трывае 5—7 мінут.

Выгоды байцаваньня на суха перад байцаваньнем на мокра наступныя:

---

Kryłki-pakryvy[1]) rudavataha koleru. Pad kryłkami, pa bakoch bruška, jość pa 5 biełych tryкutnikaŭ. Apošni sehment (časć) bruška vyciahnieny ŭ stupniova zvužvany vyrostak, h. zv. *pygidium*, maje značeńnie pry raspaznavańniu hatunkaŭ *Melolontha*[2]). Vusiki padobnyja da vachlarykaŭ, u samicy zaŭsiody mienšyja čymsia ŭ samcoŭ.

**Gieografičnaje pašyreńnie.** Pavodle Winklera majovy chrušč razpaŭsiudžany jość ŭ Paŭnočnaj i Siaredniaj Eŭropie, na Poŭnačy Bałkanaŭ i na Kaŭkazie.

**Biolohija** (*sposab žyćcia*). Čas pajavu *imagines* (daśpiełaj chvormy). Vyrasšyja avadni pajaŭlajucca ad V (traŭnia) da pałovy VII (lipnia). Ale, možna pabačyć ich užo ŭ kancy IV (krasavika), i až da pieršych dzion VIII (žniŭnia), što zaležyć ad varunkaŭ atmosferyčnych (pahody). Kali viasna byvaje raniejšaja, dyk chruščy źjaŭlajucca skarej, ale zatoje i skarej źnikajuć; a kali viasna byvaje zimnaja i daždžystaja, tady jany paźniej pajaŭlajucca, ale i daŭžej vystupajuć.

**Žyr.** Jak viedajem, *imagines* (śpiełyja žuki chruščy) žyviacca listami dreŭ. Pry masavych rojkach — a hetkaj rojki sioleta treba spadziavacca — kali ŭsio liścio abjadajecca chruščami, užo ŭ m-cach červieni-lipni raźvivajecca liścio novaje, z pučkoŭ, jakija zvyčajnym paradkam musili-b raźvicca tolki ŭ nastupnym hodzie. Takoje pradčasnaje raźvićcio pučkoŭ hetak škodzić drevu, što jano vielmi časta zusim hinie.

Žyrujuć majovyja chruščy na pładovych drevach i kustoch, jak na jabłyniach, ihrušach, višniach, ślivach, čarešniach, malinach, na roznych lasnych i parkavych drevach, jak: liścianicach, hrabach, bukoch, duboch, biarozach, viazoch, asinach, vierbach, klanoch, kaštanoch i na šmat inšych.

Chruščy latajuć pad viečar ŭvakruh dreŭ, na katoryja pašla siadajuć i pa zaspakajeńni hoładu. kali ciaplinia pavietra nie apadaje nižej 10°C, prabyvajuć tamaka praz noč. Kali ž ciaplinia apadzie nižej 10°C, tady ŭžo pa karotkim žyravańniu chruščy złatajuć na ziamlu, hdzie i zakopyvajucca. Treba ab hetym pomnić, kali chočam źbirać chruščoŭ dziela niščeńnia.

**Składańnie jaječak** pačynajuć apłodnienyja samki ŭžo ŭ pieršaj pałavinie m-ca traŭnia. Kožnaja samka składaje kala 60—80 štuk

---

1) Chruščy hetyja majuć dźvie pary kryłak: kryłki — pakryvy ćviordyja (chitynovyja) majuć praznačeńnie achraniać druhuju paru kryłak bałonkavych, schavanych pad imi, katoryja słužać da latańnia.

2) U nas vystupajuć dva hatunki· majovy chrušč i ŭžo vyšej uspomnieny kaštanavy chrušč (melolontha hippocastani—L.).

# Больш пашы!

Пачатак вясны і пачатак лета (м цы красавік і чэрвень) гэта час даслоўнай галадоўкі нашай скаціны. Штогод паўтараецца такое палажэньне, што „хоць зубы на паліцу палажы". А карова, хоць-бы яна была найлепшай, калі не дастане патрэбнай для сябе пашы, дык ня толькі перастане даіць у той мамэнт, але гэткая галадоўка найчасьцей адбіваецца на ўсім ейным жыцьці. Таму пытаньне аб тым, як на круглы год забясьпечыць дастатак пашы для дойнай перад усім скаціны, вельмі важнае.

Пасьбішчы нашы блізу скрось у дзікім стане, людзкая рука блізу што іх ня кранула. Не далёка ад гэтага адышлі і сенажаці і таму лугавога сена па нашых гаспадарках таксама не стае. Астаецца адзін-адзіны выхад — сеіць больш пашных расьлін на ворных грунтох, побач і замест празьмернага мноства сееных тут расьлін збажжовых.

Зразуменьне вартасьці пашных расьлін у нашых гаспадарках ужо ёсьць, але яно неяк астанавілася на паўдарогі.

З пашных расьлін спатыкаем па нашых палёх пераважна толькі канюшыну ды сямтам — кармовы бурак. Рэшта — як быццам не існавала. І тут на сягоньня вялікая бяда, бо ёсьць многа іншых кармовых расьлін, якія добра ўдаюцца ў іншых варунках, дзе ня можна сеяць ні канюшыну, ні кармовага бурака і якія даюць ня толькі добры корм, але і гноюць і наагул палепшываюць глебу. Да такіх расьлін у першую чаргу належыць сэрадэля, якая дае і добрае сена і ня горш гноіць зямлю, бо пры помачы асаблівых бактэрыяў, якія знаходзяцца ў струпкох на карэньнях, сьцягівае ў глебу з вольнага паветра цэнны азот. Да таго-ж, сэрадэля любіць лёгкія глебы і можа быць сеенай як сама адна, таксама з яравымі збажжынамі і навет можна яе ўсеіваць вясной у збажжавіны азімыя (у жыта). Адну асаблівасьць сэрадэлі ня можна аднак абмінаць бяз увагі: сэрадэля звычайна не ўдаецца на тым месцы, дзе прад тым яна ніколі не расла, бо вымагае, каб у глебе былі асаблівыя бактэрыі. Дзеля гэтага сеючы сэрадэлю на новай для яе глебе, трэба перад усім у гэту глебу ўвясьці сэрадэльныя бактэрыі. Рабіць гэта можна двума спосабамі: або па такім полі

---

байцаваньне на суха ня нішчыць пара-ненага зярняці,

няма небясьпекі пратрыманьня сяўбы ў растворы,

насеньне зараз-жа можа быць высеена (ня трэба сушыць) і

бароніць ад зародкаў хваробы ня толькі тых, якія ўжо знаходзяцца на зярняці самым, але і ад тых, з якімі можа спаткацца ў заражанай глебе: зерне байцаванае на суха прыходзіць у зямлю ў ценькай павалоцы парашку, каторы яго бароніць ад усякіх хваробных зародкаў.

А. К.

---

jaječak, u kučkach pa 10—30 štuk, na ziamli davoli pulchnaj, na hłybini 5—30 cm.

**Larvy.** Pa 4—6 tydniach ad času złažeńnia jaječak, vykluvajucca larvy. Postać ich rabakavataja, z ćviordaju hałavoju chitynavaju[3]) i miakkim biełym ciełam. Na troch piarścieńniach pazahałovavych znachodziacca try pary nožak.

U pieršym hodzie svajho žyćcia larvy vialikich škod nia robiać, karmiačysia pierahnojem i drobnymi kareńčykami roznych raślin, trymajučysia mienš ci bolš na miescy. Vosieniaj u łaziać larvy hłybiej u ziamlu, a pa prazimavańniu padyjmajucca nanova bližej jaje pavierchni.

U druhim i trecim hodzie žyćcia larvy najbolš škodziać i najdaŭžej žyrujuć, bo až kala siamioch miesiacaŭ, h. zn. ad krasavika da listapada (hladzi nižej padanuju tabličku № II). Škivicy ich tady ŭžo vielmi silnyja i jany biaz trudoŭ zhryzajuć kareńni maładych drevak, a z starych—prynamsi karu, nia kažučy ŭžo ab škodach roblenych kvołym kareńčykam zbožža abo miasistym, padziemnym čaściam varyva, bulby, burakoŭ i h. p.

3) **C h i t y n a** heta ćviordaja, vierchniaja pavałoka avadzinaha cieła, zvyčajna brunatnaha koleru, z toŭstym połyskam i elastyčnaja jak roh.

U čaćviertym hodzie žyćcia, larvy chruščoŭ žyrujuć tolki 3—4 miesiacy, a heta dziela taho, što ŭžo z kancom m-ca lipnia, abo žniŭnia pieraviartajucca ŭ pačvarki. Choć tady larvy silniejšyja i patrabujuć bolš žyru, usioždyki karaciej žyrujučy šmat škody nia robiać.

Viek larvaŭ možna lohka aznačyć pavodle nižej zamieščanaj tablički.

### Tablička I.

| Viek larvy ŭ hadoch | Daŭžynia larvy ŭ cm. | Abvod pry hałavie ŭ mm. |
|---|---|---|
| 1 | $1^1/_2$ | 3 |
| 2 | $2^1/_2$ | 5—6 |
| 3 | $3^1/_4$—4 | 8—9 |

**Pačvarka** majovaha chrušča prabyvaje ŭ ziamli davoli hłybaka, časam na $1^1/_2$ metr., praz 4—8 tydniaŭ, paśla čaho vykluvajecca *imago* (śpieły chrušč). Pačatkava jon miakki i bledny, paśla stupianiova robicca ćviardziejšym i ciamniejšym, a z viasnoj nastupnaha hodu vyłazić užo z ziamli jak śpieły žuk i adrazu ŭźlataje na dreva, hdzie i žyruje.

пры пахмурнай пагодзе (або вечарам) растрасаецца пакрысе і забаронываецца зямля з таго поля, дзе сэрадэля ўжо расла, або — калі зямлі з бактэрыямі маем мала — з зямлі такой робіцца рэдкая гразь, з каторай вымешваецца сяўба і высейваецца.

Другая важная справа з сэрадэляй тая, што яна ня любіць глебы, у каторай шмат вапны. — Слабай стараной сэрадэлі ёсьць і тое, што яна спачатку вельмі памалу расьце. Таму, калі сэрадэля засеена сама толькі, бяз збожжа, яе трэба часта — на пачатку — палоць, а сьвірэпку — скашываць зверху.

З усейваньнем сэрадэлі ў жыта лішне сьпьшацца ня трэба: ад першых дзён м-ца траўня і аж пакуль не пачне жыта выплываць (каласіцца). Агулам-жа сеецца сэрадэля тым раней, чым грунты лягчэйшыя,—і наадварот. —

Аб сяўбе сэрадэлі ў яравое збожжа адзін з практычных гаспадароў апавядае гэтак:

„Поле пад ярыну ўзорываю ўвосені. Вясной поле драпакую, сею ячмень ці авёс, а пасьля, таго самага дня, засяваю і сэрадэлю. — Сэрадэля расьце ў ярыне добра, спачатку толькі ўкарэньваецца. Калі-ж збожжа дасьпее, сэрадэля пачынае расьці ў сьцябло, за колькі тыдняў вырастае да калена, а на горшых пяскох пераганяе збожжа. Калі збожжа дасьпее, кашу яго касою з грабельцамі. Пакосы праз які час пераварачваю граблямі і як высахне, за расы вяжу ў снапы і зважу да хаты. Калі вязаць у сухую пагоду, дык сена і насеньне сэрадэлі вельмі крышацца, а гэта — пажыва. Снапы дома малачу і маю добрую пашную салому і яшчэ пажыўнейшую мякіну, якой не дараўняе і сена.

На веялцы аддзяляю зярно збожжа, а пасьля і зярно сэрадэлі, якое спачатку йдзе разам з мякінай. Пасьля 2 разы вею мякіну, аддзяляючы гэтак і зярнё сэрадэлі. — Маю досыць пашы для скаціны, а ня меў-бы яе, калі-б не засейваў у ярыну сэрадэлі. Сэрадэляй добра ўгнойваю поле, дык і збожжа дае большы ураджай".

Што да вымаганьняў на гнаеньне пад самую сэрадэлю, дык найбольш яна вымагае потасу (каініт, драўляны попел).

Сяўбы добрай, буйнай, зелянкава-бурай на гэктар досыць 40—45 кілё; але калі насеньне дробнае, дык не зашмат і двойчы гэтулькі, г. зн. 80—90 кілё. Сеецца сэрадэля вельмі плытка.

Сэрадэля вельмі няроўна дасьпявае і таму касіць яе трэба, калі стручкі ўжо ў большай часьці выпаўніліся. Час — канец м-ца жніўня. З гэктара зьбіраюць 300 кілё зярняці і 60 мэтрычных цэнтнараў*) сэрадэлявага сена, якасьць каторага дараўняецца найлепшаму сену мурожнаму.

Сэрадэля ўсейваная ў збожжа дае ўвосені добрую пашу або заворваецца як зялёны гной. Сушыць сэрадэлю на сена ў гэту пару ўжо цяжка.

*) Мэтр. цэнтнар мае 100 кілё.

---

Cely hety čatyraletni cykl (čas) raźvićcia majovaha chrušča (M. *melolontha*) pradstaŭlaje vyrazna tablička № II.

tłumačać, što vyrassŭja larvy źjadajuć u ziam li larvy małodšyja, katoryja raźvivajucca z jaječak składzienych paźniej. Pastupajučy hetak

**Tablička II.**

| Hod | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1931 | | | | | + + ▬ . . | + + ▬ . . | + . . | . — | — — | — — | — — | — — |
| 1932 | — — | — — | — — | ▬ — — | ▬ — — | ▬ — — | ▬ . — | ▬ — — | ▬ — — | ▬ — — | — — | — — |
| 1933 | — — | — — | — — | ▬ — — | ▬ — — | ▬ — — | ▬ — — | ▬ — - | ▬ — — | ▬ — - | — — | — — |
| 1934 | — — | — — | — — | ▬ — — | ▬ — — | ▬ — — | — - | — o | o o | o o | + + | + + |
| 1935 | + + | + + | + + | + + | + + ▬ . . | + + ▬ . . | + ▬ . | | | | | |

Abjaśnieńnie znakoŭ: ++ imago, . . jaječki, — — larvy, o — o pačvarki, ▬ čas, kali robiać škody.

**Źjavišča rojki,** inačaj — masavaha latańnia chruščoŭ praz peŭny čas (u nas što 4 hady) vielmi cikavaje. Niekatoryja entamalohi[4])

4) Entamaloh — vučony, katory zajmajecca daśledžvańniem žyćcia avadnioŭ; entamalohija — navuka ab avadnioch.

## Якую бульбу трэба садзіць?

Бульба гэта расьліна лёгкіх зямель. Уласьцівай глебай пад бульбу ёсьць пясок.

Дзеля гэтага, калі прыходзіцца садзіць яе на цяжэйшай зямлі (іл, ці перагной), трэба дбаць аб найлепшыя варункі разьвіцьця і росту расьліны.

Перадусім трэба зьвярнуць увагу на падбор садзьбы (сяўбы). Бульба да саджэньня (садзьба) таксама як зярнё збожжа носіць у сабе ўсе прыкметы будучай расьліны. Якая садзьба, такі пасьля і ўраджай. Калі будзем аб гэтым памятаць, дык будзем больш дбаць аб садзьбу.

Трэба перадусім пашукаць добрага сорту, які ў нашых варунках адзначаўся б ураджайнасьцю і быў адпорны проці хвароб. Гэта адпорнасьць у бульбы вельмі важная прыкмета. Можа быць найлепшы сорт, але калі ён мала адпорны на хваробы, дык шкода такую бульбу садзіць. Хоць-бы нават з такой садзьбы і ўдаўся на першы год вялікікі ці прынамся слушны ўраджай, дык нездаровую бульбу цяжка перахаваць і ўраджай усё роўна прападзе. Ад гніцьця бульбы можна ўсьцерагчыся толькі ўважным перабіраньнем садзьбы.

Пры гэтым трэба зьвярнуць увагу, каб:

Ня высаджываць малых бульбін з пераборкаў. Тым больш трэба гэтага сьцерагчыся, калі прыходзіцца садзіць бульбу на цяжкай глебе. Гэткія дробныя пераборкі паходзяць пераважна з-пад састарэўшых і зьведзеных каліваў. Калі пераборкі, хоцьбы найлепшых сартоў, садзяцца стала, дык бульба зводзіцца.

На садзьбу трэба браць бульбу калі не вялікую, дык прынамся сярэднюю. Доўгалетняя практыка паказала, што найбольшы ўраджай даюць усё-ж вялікія бульбіны, а найменшы — малыя.

Да саджэньня трэба выбіраць толькі бульбіны здаровыя. З прыпсутымі бульбінамі дастаюцца ў глебу зародкі розных хвароб, якія з зямлі пасьля нападаюць на расьліну і гэтым гноюць яе ці то йшчэ на полі, ці потым у капцох, скляпох, ямах.

Перад саджэньнем трэба садзьбу добра абгледзіць ды выпрабаваць, ці яна часам не заражаная пругаватасьпю. Прабуецца гэтак:

---

Аб гнойнай вартасьці сэрадэлі найлепш сьведчаць цыфры дасьледчых станцый. Бульба пасаджаная: на аржышчы без сэрадэлі дала з гэктара 173 мэтр. цэнтн.; на аржышчы з сэрадэляю цэла заараннай на гной — 226 мэтр. цэнтн., а на аржышчы з сэрадэляй скошанай на сена — 201 мэтр. цэнтнар. Ураджай аўса пасеенага на аржышчы з сэрадэляй павялічваўся на тых-жа дасьледчых станцыях на 6—7 мэтр. цэнтн. на гэктары.

Словам, усё прамаўляе за тым, каб на сэрадэлю зьвярнуць у нас больш увагі, асабліва-ж усюды там, гдзе ёсьць адпаведная глеба, мала пашы і нястача хлеўнага гною.

С. Я.

---

až da pieraviartańnia ŭ pačvarki, larvy hetym samym niščać dva abo try nastupnyja pakaleńni. Prykład heta samaźniščeńnia.

**Ab škodnaści chruščoŭ,** hałoŭnym čynam ich larvaŭ, mohuć nas prakanać napr. abličeńni Zweigelta z Dolnaj Aŭstryi, katory piša, što ŭ ich u hod škody zroblenyja larvami majovaha chrušča vynosiać 20 miljonaŭ załatych karonaŭ. Le Mault padaje, što ŭ Francyi treba ličyć kožny hod škody ad majovaha chrušča na 280 miljonaŭ da 1 miljarda załatych frankaŭ. A pavodle praf. inž. Kozikoŭskaha, u Zachodniaj Ukrainie (Fredraŭ) ŭ 1925 h. larvy majovaha chrušča źniščyli na pavierchni 8 ha: 120,000 štuk pryščeplenych pładovych drevak i kala 30,000 dzičkoŭ. Aprača hetaha — kala 0,57 ha plantacyi truskavak źniščana ŭ 50 prac. (na pałovu). Ahułam škody ŭ Fredravie abličajuć na bolš jak 200,000 zł. A ŭ Haličy, u tym-ža hodzie, u škołcy pładovych drevak zroblena było škody na 30,000 zł.; kala Lvova, u miežach „toporoŭskaha kluča“ było źniščana larvami majovaha chrušča 70 ha zasievaŭ, na paloch sialan—kala100 ha; u pav. rahatynskim (vajav. stanisłavaŭskaje) u samoj tolki bulbie było škody na bolš jak 250,000 zł. Možna było-b jašče šmat dać prykładaŭ ab škodnaści chruščoŭ, ale ahraničymsia pakulšto na hetych.

**Čyńniki ŭpływajučyja na raźvićcio chruščoŭ.** Adnym z takich čyńnikaŭ jość gieografičnaje pałažeńnie dadzienaha kraju: chruščy žyvuć pierad usim na nizinach; u horskich vakolicach jość ich značna mienš. Što datyča klimatu, dyk u suchich i siarednie ciopłych vakolicach źjaŭlajucca jany rehularna ŭ vialikich kolkaściach. U vakolicach zimniejšych i vilhatniejšych jany nikoli nia vystupajuć masava, a naviet i ŭ małoj kolkaści. Dalej, vielmi važnuju rol adyhryvaje tutaka ziemlarobskaja i lasnaja kultura, kataraja prynamsi hamuje ich razmnažeńnie i ŭ kancy — zaŭziataja baraćba, jakuju viadzie z imi čałaviek ad dziesiatkaŭ hadoŭ.

**Naturalnyja vorahi.** Larvy chruščoŭ majuć šmat naturalnych vorahaŭ, da jakich naležać niekatoryja sysuny, jak napr.: krot, lisica, dzikaja śvinia, ptuški, jak varony, hračy, saroki, špaki, vierabji, sovy i inš. Aprača hetaha larvy hinuć časta ad pasažytnych hrybkoŭ, što vyklikajuć siarod ich chvaroby, a kažany niščać vielmi intensyŭna ŭžo vyrasšych avadnioŭ.

**Metody niščeńnia chruščoŭ.** Chrušča najlepš niščyć, kali jon užo daśpieły. Jak tolki chruščy pajaviacca, ich treba źbirać kožnaha dnia jaknajraniej, u dni pahodnyja ad 4-taj, a ŭ dni pachmurnyja i ściudzionyja — ad 6-taj

Бульбіна перарэзваецца і перарэзанаю стараною выстаўляецца ў бок сонца. Калі за 1—2 гадзіны на перарэзе зьяўяцца рудыя аж чарнаватыя пругі, а часам і суцэльнае калясо, дык бульба заражана. Калі гэта хвароба вялікая, дык цэлая паверхня на разрэзе стане цёмна рудой (гнедай). Рудзее пры гэтым і ўсё нутро сільна заражанай бульбы.

Апісанай толькі што пругаватасьці ня можна зьмешываць з цэвамі, якія знаходзяцца таксама пад вонкавай паверхнасьцю бульбіны і пераходзяць у вочкі. Гэтыя цэвы (жылы) крыху цямнейшыя ад мяккішу бульбы, але яны ня рудыя, калі толькі бульба здаровая. Затое ў заражанай бульбы рудыя пругі паказываюцца зразу пад гэтымі цэвамі.

Гэткага заражанага насеньня ня можна высаджываць. Яго трэба зьмяніць, а то і зусім зьнішчыць.

Паводле магчымасьці трэба старацца каб ня кроіць бульбін празначаных да саджэньня. Часта без канешнай патрэбы, толькі „дзеля ашчаднасьці", кроюць нашы гаспадары насенную бульбу на два а то і больш кускоў. Гэтым шмат не здабываецца, толькі аслабляецца сіла росту, а тымсамым і плоднасьць расьліны. Рэзаньнем гэткім бульба зводзіцца.

Калі аднак прыходзіцца рэзаць насенную бульбу з канешнасьці, дык рэзаць яе трэба на дзьве толькі часьці, уздоўж, так, каб абедзьве палавіны мелі роўны лік вочак.

Калі не залежа на колькасьці насеньня, але да рэзаньня насеннай бульбы змушае нястача пашы, дык можна тады рэзаць бульбіны і ўпоперак. Тады аднак каронкавую палавіну (галаву), якая мае найбольш і найсільнейшых вочак, высаджваюць, а ніжнюю (пупавую) часьць можна скармліваць. Пупавой часьці ня можна ніколі высаджываць, яна мае мала вочак і яны слабыя.

Рэзаныя бульбіны трэба пакінуць на некалькі дзён, каб рана прысохла і зацягнулася карковай павалокай.

Сьвежа кроеныя бульбіны ня можна высаджываць, бо гэткімі (сьвежымі) ранамі ў бульбу хутчэй дастаюцца зародкі гнільля. А бывае і так, што бульбіна загніўшы ў ране хутчэй загніе і зусім не абыйдзе.

Кроеныя бульбіны трэба садзіць так, каб кроеныя старана лягла ўверх, а вочкі — да зямлі. Гэтым аблягчаецца ўкараненьне і прарастаньне расьліны.

Добра, каб насенная бульба крыху прывяла. Ня можна садзіць бульбу зараз выбраную з склепу ці ямы, але пакінуць яе трэба ў правеўным месцы, на таку, на якіх 3-4 дні. Гэткая бульба ўсходзіць, праўда, павальней, але затое раўнамерна.

Трэба ўважаць, каб ня высаджываць бульбін, якія ў яме запарыліся. Вочкі ў такіх бульбін калі ня мёртвыя (бо задушыліся), то значна аслабленыя. Гэткае насеньне дае пасьля слабы ўраджай, бо траціць сваю насенную вартасьць і прыкметы, якія калісь мела.

Вочка ў бульбы гэта жывое месца — зародак, які жыве цэлы час. Гэта будучая

---

hadziny ranicaj. Pad drevy, na katorych siadziać sonnyja chruščy, padściłajucca pościełki, a samo dreva mocna ŭstrasajecca ŭsio za raz, ci tolki asobnyja haliny. Haliny (suččo) niedastupnyja strasajucca pry pomačy busakoŭ ci inšych vysokich tyčak z kručkami na kancy. Apadajučych chruščoŭ treba skora sabrać, ssypać u miaški i zalivać haračaj vadoj: prysmak heta dla kurej, šviniej i dla ryby.[5])

Adnak-ža nia možna ahraničycca źbirańniem tolki samych chruščoŭ; treba tak-ža niščyć i ichnyja larvy, źbirajučy ich pry arańni rukami, abo pryvučyć, kab za płuham chadzili ŭšled chatnija ptuški (kury).

Takoje źbirańnie larvaŭ najlepš udajecca, kali leta suchoje, bo tady larvy žyrujuć blizka pavierchni ziamli. U pieršym ža hodzie pa masavaj rojcy, abo viasnoj nastupnaha hodu, kali larvy daloka ad siabie jašče nie raspoŭssysia, źbirańnie daje najlepšyja rezultaty. Možna jašče trucić larvy dvusiarčanam vuhla hetkim sposabam: na abšary, hdzie silna pajavilisia larvy, treba ŭ vodstupach 1/2 da 1 metr. pavykopyvać jamki hłybini mienš-bolš 20 cm., u jakija i nalivajecca hetaja trucizna. Jamki hetyja paśla zasypajucca ziamloj, kab haz lepš raschodziŭsia ŭ hlebie.

Cełaja praca nad zmahańniem chruščoŭ udasca tolki tady, kali jej zacikaviacca ŭsie, bo baraćba ŭ adzinočku nie apłacicca.

**Majovy chrušč ŭ Zach. Biełarusi.**

Raspaŭsiudžańnie. Majovy chrušč (*M. melolontha L.*) jak i kaštanovy chrušč (*M. hippocastani L.*) vystupajuć u nas na cełym abšary razam[6]). Pytańnie ab tym, katory z hetych dvuch hatunkaŭ bolš u nas pašyrany, jašče dobra nie daśledžana, ale adnak zdajecca, što majovy chrušč pieravažaje.

b) Dasiulešnija pajavy. Pavodle mapy praf. inž. Kozikoŭskaha vidać, što ŭ 1920—24—28—32 h. rojka chruščoŭ była ŭ vakolicach Vilni i na paŭnočnym-uschodzie Vilenščyny, a ŭ 1921—25—29—31 h.—ŭ Biełastoččynie, Paleśsi, uschodniaj čaści Navahradčyny i na paŭdzionnym-uschodzie Vilenščyny. Lety 1923—27—31 byli rojkavymi ŭ paŭn.-uschodniaj Vilenščynie, u vakolicach Vilni, uschodniaj Navahradčynie i zach. čaści Paleśsia. Jak z hetaha vidzim, u niekatorych vakolicach źjaŭlajucca padvojnyja hady rojki, napr. u vakolicach Vilni— ŭ 1923 i 1924 h., a ŭ Nava-

---

5) Zabityja hetak chruščy možna źmiaščać z inšym kormam i davać jeści šviniam, kuram i rybam.

) Cykl raźvićcia hetaha apošniaha hatunku tryvaje praŭdapadobna 5 hadoŭ.

Ф. Акінчыц.

*У парадку дыскусіі*

# Аграрна - коопэратыўная палітыка будучыні.

## Уступ.

Што сучасны аграрны лад вымагае грунтоўнай перабудовы—аб гэтым ня можа быць ніякага сумліву.

Пасьля сусьветнай вайны неабходнасьць гэтай перабудовы зразумелі амаль усе народы. Таму многія эўрапэйскія дзяржавы, ня лічучы ўжо Савецкі Саюз, амаль поўнасьцю зьліквідавалі ў сябе абшарніцтва, а калі дзе яно і асталося, то знаходзіцца ў стане кананьня. Парцэляцыя буйных абшараў, як-бы шырака яна ня была праведзена, не вырашае, аднак, усей, даволі, складной аграрнай праблемы. Усё тое, што мы знаходзім у аграрных праграмах дэмакратычных партыяў, гэта значыць — парцэляцыя і надзяленьне зямлёю беззямельных і малазямельных, комасацыя, мэліорацыя і г. п. — усё гэта зьяўляецца нічым іншым, як толькі пачаткам вырашэньня зямельнага пытаньня, самым жыцьцём, тэхнічнаю перабудоваю зямельнага ладу, за каторая павінна йсьці глыбокая соцыяльна-эканамічная рэконструкцыя.

Сутнасьць гэтай апошняй палягае на вытварэньні ў улоньні вясковай гаспадаркі такіх соцыяльна-эканамічных суадносінаў, пры каторых павялічвалася б выдайнасьць людзкой працы і самой зямлі.

Гэткае пытаньне навет у сучасную ўжо хвіліну павінна лічыцца адным з найгалаўнейшых. Трэба ўзяць пад увагу, што пасьля падзелу ўсяго зямельнага запасу, які толькі ёсьць у тэй ці іншай дзяржаве — праз нейкі час (які ня трудна аблічыць) ізноў паўстане зямельная „цесната“. Колькасьць людзей на сьвеце ўсьцяж павялічваецца, а колькасьць зямлі астаецца вялічынёю пастаяннаю. І гэтая вось акалічнасьць і ёсьць тым галоўным мотарам, каторы пхае людзкую грамаду ў кірунку ўдасканаленьня формаў сужыцьця.

На жаль, сучасныя кіраўнічыя колы мала цікавяцца падобнымі пытаньнямі, ад пра-

---

расьліна. Яно калі мае досыць цяпла, паветра ды вогкасьці, выбіваецца наверх і пускае расткі. Найхутчэй пускае расткі галоўнае ды найсільнейшае вочка. Гэткі расток пры саджэньні абломліваецца і расьліна траціць найлепшыя свае часьці, у якіх было найбольш сілы і жыцьця. Дзеля гэтага трэба берагчы насенную бульбу, каб прадчасна ня выбівалася з сілы, ня траціла найлепшых расткоў. Калі насенная бульба пусьціла ўжо вялікія расткі, дык ня можна іх абрываць, але асьцярожна высаджываць у зямлю. Найлепш, калі бульба пускае росткі ўжо ў зямлі. Толькі бульбу раньнюю, каб прысьпяшыць рост, сумысьля прарошчываюць і пасьля асьцярожна высаджваюць.

Побач з насеньнем, ня можна забывацца і аб належным абрабляньні зямлі, а таксама дапільнаваць, каб у пару садзіць самую бульбу. Сьпяшацца з гэтым няма чаго. Садзіць трэба, калі зямля ўжо абагрэлася: тады і насеньне лепш усходзіць.

Інж. В. Жаўнерчук.
(„*Сіль. Госп.*“).

---

hradčynie—ŭ 1923 i 1925 h. Možna dumać, što heta vynikaje stul, što adnaho leta vypadała rojka m a j o v a h a chrušča (*M. melolontha*), a ŭ nastupnym — k a š t a n o v a h a (*M. hip pocastani*). U 1924 h. tolki ŭ lasnych kulturach byli parobleny škody larvami ŭ Vilenščynie kala 5 prac., Paleśsi—18 prac., Biełastoččynie —21 prac., a ŭ Navahradčynie až 80 prac.! Niastača bolš ścisłych dadzienych z našaha abšaru nie pazvalaje nam vykazać škodnaści, napeŭna nia mienšaj z inšych hadoŭ i inšych halin raślinnaje pradukcyi.

c) M a h č y m a j a r o j k a c h r u š č o ŭ u 1 9 3 5 h. Praf. Dr. J. P r ü f f e r piša[7]), što treba spadziavacca ŭ hetym hodzie chruščavych rojkaŭ u Vilenščynie ŭ pav.: Vilenskim, Ašmianskim, Maładečanskim, Vialejskim, zach. čaściach pav. Baranavickaha, u pav. Ščučynskim, paŭdzionnaj čaści pav. Lidzkaha, paŭnočnaj čaści pav. Navahradzkaha, Staŭpieckaha i ŭ paŭn. čaści pav. Vałožynskaha. Na Paleśsi mahčyma, što rojka budzie ŭ pav. Bieraściejskim, z inšych pavietaŭ niastača danych. Taksama i ŭ Biełastoččynie, dzie aprača pav. Vaŭkavyskaha, Hrajeŭskaha i ŭsch. čaści pav. Kolna, ŭ katorych viedama, što rojki nia budzie--niama nijakich danych. „Na kaniec treba zaŭvažyć, što ŭ miascovaściach,u katorych pradbačycca masavaja rojka chruščoŭ, siła jaje zaleža ad vielmi mnohich čyńnikaŭ, katoryja ŭ narmalnym raźvićciu roznych hatunkaŭ avadnioŭ mohuć u danym hodzie vyklikać značnaje źmianšeńnie kolkaści navat najzvyčajniejšych formaŭ“.[8])

7) J. P r ü f f e r — Zasięg przypuszczalnej rójki chrabąszczy w 1935 r.

8) Tam-ža.

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

вільнага вырашэньня каторых будзе залежыць лёс ня толькі аграрных, але і прамысловых краін. Гэтыя людзі заспакоіліся частковай парцэляцыяй, каторая, да рэчы сказаць, праведзена была пад псыхолёгічнаю прэсіяю расейскай рэвалюцыі і, трымаючы ў сваіх руках уладу, пусьцілі аграрную справу на волю лёсу.

Ідэолёгі і кіраўнікі сучаснага ладу разумеюць, што падобны стан рэчаў дабра не варожыць, і таму мы чуем з іх боку прыхільныя водклікі аб каапэрацыі, заклікі да ашчаднасьці і тэхнічных удасканаленьняў, але ніколі ня бачылі—і пэўна не пабачым—нейкіх праектаў радыкальных рэформаў, каторыя запраўды перабудавалі-б усё вясковае жыцьцё, як гаспадарчае, так і грамадзкае.

Доказам падобнага стану рэчаў ёсьць сучасная палітыка цэн, у выніку каторай капіталісты, ліхвяры і розныя гандлёвыя пасярэднікі нажываюць вагромныя капіталы, выкарыстоўваючы неарганізаванасьць сялян, што наглядаецца амаль ува ўсіх дзяржавах.

З другога боку выступаюць ідэолёгі дыктатуры пролетарыяту — камуністы і соцыялісты марксаўскай школы, каторыя, імкнучыся да соцыяльнай рэвалюцыі, у аграрнай галіне таксама ня маюць конструкцыйнай праграмы, якая была-б карыснаю для сялянства. Іхным ідэалам ёсьць падпарадкаваньне інтарэсаў усіх клясаў—у тым ліку і інтарэсаў сялян—інтарэсам „гэгемона" — пролетарыя і гэтакае падпарадкаваньне знаходзіць вонкавае выяўленьне ў дыктатуры пролетарыяту, пры каторай голас селяніна быўбы вельмі слабы.

На колькі марксаўская аграрная тэорыя і праграма зьяўляюцца не да прыняцьця сялянскімі масамі — найлепшым доказам можа служыць Савецкі Саюз, дзе марксысты-камуністы, маючы ў сваіх руках усю ўладу, вытварылі прыгонныя формы гаспадаркі, характэрыстыка якіх не ўваходзіць на гэтым месцы ў нашыя пляны. Адно толькі скажам, што савецкі аграрны лад ня можа быць нашым ідэалам. Адзіным дадатнім для нас бокам камуністычных досьледаў ёсьць тое, што мы больш інтэнсыўна павінны адшукваць іншыя спосабы вырашэньня аграрнай праблемы, спосабы больш карысныя і рацыянальныя, асабліва ў тых краёх, дзе, як напрыклад у нас, у Беларусі, сялянства становіць аснаўную масу насельніцтва.

Гэтая акалічнасьць змусіла аўтора гэтых радкоў, які доўгі ўжо час цікавіўся аграрным пытаньнем, даць на бачынах „Самапомачы" хоць-бы агульны нарыс тых конкрэтных мерапрыемстваў, каторыя павінны быць застасаваны „дзяржаваю будучыні".

Пад словам „дзяржава будучыні" аўтор разумее такі палітычны і грамадзкі лад, дзе кіраўніцтва ўсім жыцьцём будзе надавацца сіламі, каторыя прыступяць да грунтоўнай перабудовы ўсіх галін соцыяльна-эканамічнай структуры, а як на нашы беларускія абставіны, — у першую чаргу возьмуцца за ўпарадкаваньне аграрнай праблемы ўва ўсёй яе суцэльнасьці.

Калі і пры якіх абставінах гэта наступіць — варажыць тут ня будзем. Для нас мусіць быць ясным толькі адно, што гэтакі мамэнт надыйдзе, бо ён зьяўляецца гістарычна-неабходным. Тады ўсе справы, каторыя мы разгледзім у наступных артыкулах, прымуць зусім актуальны характар, і коопэрацыя ў галіне земляробстваператворыцца ў сілу, каторая паставіць яго на належную вышыню.

Пытаньням з галіны аграрна-коопэратыўнай палітыкі павінна быць пасьвячана адпаведная ўвага, бо мы перакананы, што тое, што ў сучасную хвіліну ёсьць толькі нашым лятуценьнем—зьдзейсьніцца ў жыцьці...

Яшчэ адна прычына змусіла аўтора прыступіць да надрукаваньня сваёй працы — гэта патрэба, каб выказаныя ў ёй думкі зацікавілі нашае грамадзянства і выклікалі сярод яго дыскусіі на закранутыя тэмы. Нам здаецца, што ў гэтакі спосаб нацыянальна-думаючае беларускае грамадзянства вытварыць прыгожы аграрна-коопэратыўны ідэал, куды прыгажэйшы ад таго, каторы рэалізуецца цяпер у дзяржавах з адценкам тэй ці іншай дыктатуры. (д. б.).

# ГАСПАДАРЧАЯ ХРОНІКА.

**Інвэстыцыйная пазычка.** Польскае Міністэрства Скарбу расьпісала гэт. зв. Інвэстыцыйную Пазычку на розныя будаўляныя работы, перадусім дарогі. Пазычку ўпісываць можна найменш на 100 зл. Фармальна пазычка рахуецца дабравольнай і ніхто да яе змушаць ня мае права. А як там бывае у сапраўднасьці, дык мы тут разьбіраць не бяромся.

**Скасавалі аплаты — але ня ў нас.** Кожнаму ведама, якім цяжарам для селяніна ёсьць аплаты за ўезд на рынак: калі гарадзкія аўтамабілі разьбіваюць сялянскія дарогі, дык вёска ведае толькі гэтыя дарогі плянтаваць, а калі селянін пакажацца ў горад з сваім драхлым возікам, дык адразу пры ўезьдзе мусіць аплачываць г. зв. „рагатковыя." — Вот-жа гэтыя „рагатковыя" (за ўезд) аплаты, а таксама аплаты за пастой фурманак на рынку скакаваны нядаўна на абшары аднаго Валынскага ваяводзтва.

Калі гэтага дачакаемся і ў нас?...

**Мае быць зьмена — але ці належшае?** На апошняй сэсіі Сойм між іншым прыняў закон аб пераацэнцы сялянскіх грунтоў. Робіцца-ж гэта пераацэнка на тое, каб паводле вартасьці грунту зьмяніць і падатак за зямлю. Важная гэта рэч. Але ці выйдзе яна сялянам на карысьць — гэта йшчэ вялікае пытаньне, бо-ж падаткі ўстанаўляюць перадусім тыя, хто іх бярэ, а ня тыя, хто плаце. А Урад сягоньня грошаў патрабуе ня мала. Дзеля гэтага беларускія сяляне пры пераацэнцы грунтоў павінны быць вельмі ўважнымі.

Пераацэнка грунтоў пацягнецца больш-менш тры гады.

**Закон аб шарварку.** Польскі Сойм прыняў закону аб шарварках (плянтоўцы). Гэты закон мае быць вельмі цяжкі, так што некаторыя раўнуюць яго з скасаванай калісьці паншчынай. Адна абарона ад цяжасьці гэтага закону ёсьць яшчэ ў гмінных (валасных) Радах, бо налажыць шарварк можна толькі пастановай цэлай гміннай Рады. У некаторых выпадках права гэта мае паветавая Рада (соймік), дзе сіла сялянства значна меншая.

